Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# Сын Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска **на адзін месяц** з дастаўкай да хаты **2 злотыя**
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 грош., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 23. Вільня, Серада, 6-га жніўня 1924 г. Год І.

## Зьвязаны асілак.

Як той асілак, каторага павалілі на зямлю і зьвязалі яму рукі і ногі, баючыся, каб не падняўся і ня скінуў з сябе тых, хто на яго насеў,—так жыве наш народ пад уладай Польскага гаспадарства.

Запраўды, нямашака ніводнае галіны жыцьця, у якой заходнія беларусы маглі-бы свабодна разьвівацца. Беларуская народная школа даўно зьнішчана. Астаўшыяся тры гімназіі ледзьве-ледзьве жывуць, пазбаўленыя ўсялякіх правоў у межах Польшчы і сваіх гадунцоў дзеля вышэйшае навукі прымушаны пасылаць заграніцу. У сябе-ж—у межах хаця-бы Заходняе Беларусі—узгадовываць сваю нацыянальную інтэлігенцыю мы ня можам, бо для нас дзьверы вышэйшае польскае школы тут зачынены. Свабода прэсы для нас ня існуе: калі тая ці іншая незалежная часопісь і праскоча праз цэнзуру пана камісара ўраду, дык улада мае сто іншых спосабаў недапускаць яе на вёску—перш за ўсё пры дапамозе „патрыатычна настроеных“ паштовых урадоўцаў, гмінnага „начальства“, паліцыі і т. п. Грамадзкія арганізацыі ўладай не зацьвярджаюцца, а аб свабоднай дзеяльнасьці палітычных партыяў, апрача „дэфэнзыўных“, і гаварыць ня прыходзіцца! Так сама перасьледуюцца шырэйшыя беларускія эканамічныя арганізацыі, прыкладам чаго зьяўляецца Віленскі Саюз Каапэратываў, які цяпер дык і зусім прыбралі ў свае рукі палякі.... Нават беларуская царква і касьцёл узяты пад „апеку“ ўрадовае ўлады і ўжо даўно утрацілі асноўную рысу царкоўнае арганізацыі: грамадзкую самастойнасьць....

Але, ня гледзячы на ўсё гэтае, нашы „прыраджоныя гаспадары“ не перастаюць *баяцца* гэтага *зьвязанага асілка*. Дый мо' іменна затым і баяцца яго, што яго зьвязалі і пазбавілі вольнага жыцьця, магчымасьці нармальнага разьвіцьця?

Аб тым, што польская ўлада баіцца беларусаў, найлепш гавораць тыя дзесяткі тысячаў яўнае і тайнае паліцыі, якімі навадніла Заходнюю Беларусь, ды якія затым і бязьсільны змагацца з свабодна гуляючымі па нашай зямлі бандытамі, што маюць зусім іншае — чыста палітычнае заданьне! Аб тым, што Польшча дужа добра ацэнівае сілу зьвязанага асілка, сьведчыць праведзеньне польскае вайсковае калянізацыі, асаджываньне аружных агентаў польскае ўлады пасярод нашага працоўнага сялянства. Аб тым, што нармальныя ўплывы польскае культуры ня маюць доступу да беларускае народнае масы, нацыянальна ўжо прабудзіўшаеся, кажуць нязвычайныя аб'яднаныя высілкі польскага грамадзянства і польскае ўлады ў кірунку прымусовага навязываньня нашаму народу польскае школы і польскае мовы....

І ўсё-ж такі выкіданы на гэтыя мэты вялізарныя сумы ўсенародных грошы не дасягаюць сваей мэты. Чуць што ня кожын дзень сцьвярджае гэта польская прэса ўсіх кірункаў.

Да такіх сьвядоцтваў польскае прэсы трэба аднесьці і дзьве стацьці аб „Крэсах“, надрукаваныя ў апошнім сшытку журналу „Drogi Polski“. У аднэй — аб „першых заданьнях нашае палітыкі ў усходніх ваяводзтвах“—аўтар прызнае, што польская палітыка дагэтуль не здалела дасягнуць тутака сваей мэты, і дзеля гэтага заклікае да новых экспэрымэнтаў. Таго, што зроблена дзеля апалячаньня Заходняе Беларусі,—мала: трэба напружыць усе сілы грамадзянства і дзяржавы, каб тварыць і разьвіваць новыя культурныя польскія „пляцоўкі“, трэба на гэта не шкадаваць самых шчодрых урадовых дапамог грашмі. Але і гэтага мала: сучасная адміністрацыя не выпаўняе, як сьлед, сваей палянізатарскай місіі, бо, як ведама, на „Крэсы“ пасылаюцца, як у ссылку, найгоршыя элемэнты, спракудзіўшыяся на службе ў Польшчы. Дык аўтар і заклікае ўрад, каб распачаў сваіго роду „крыжавы паход“ проці Заходняе Беларусі, змабілізаваўшы найлепшыя сілы — найлепшых урадоўцаў, пасылаючы іх на „Крэсы“ ў двохгадовыя камандзіроўкі, ды добра іх аплачываючы за час іх службы на нашай зямлі. Урэшце, разумеючы, што тая „польская культура“, якую ў нас прадстаўляюць насланыя да нас польскія вучыцялі, паліцэйскія, шпікі, дый усякія „фаховыя“ ўрадоўцы, бязумоўна ня можа нікога „захапіць“, радзіць „прывазіць прадстаўнікоў крэсавае люднасьці ў цэнтры польскага культурнага і гаспадарчага жыцьця“, каб „пазналі Польшчу і навучыліся верыць у яе моц“.

У другім артыкуле тэй-жа часопісі гаворыцца аб тым, што польскія ўрады на „Крэсах“ ня маюць даволі паважнага і імпануючага.... віду! Для тых сотняў урадовых установаў, якія нет ведама дзеля чаго заведзены чуць што не па ўсіх нашых мястэчках (—мусіць, проста, каб „узмацоўваць тут польскі элемэнт“), трэба будаваць палацы: тады і народ беларускі паклоніцца да зямлі перад магутнасьцяй Польскае дзяржавы і... ахвотне пачне польшчыцца!

Чытаючы ўсе гэтыя прызнаньні ў бязьсільлі Польшчы зьніштожыць усё нашае роднае, беларускае, прыпамінаючы такжа няздольнасьць і шмат больш магутнай за сучасную Польшчу царскай Расеі ў працягу больш сотні гадоў перарабіць беларусаў на маскалёў, робіцца неяк лягчэй і вясялей на душы: *зьвязаны асілак не паддаецца!*

Есьць такая польская прыказка: „Gdyby koń o swej sile wiedział, żaden by jeździec na nim nie usiedział“. Восьжа беларусы ў часе маскоўскага панаваньня аб сваей сіле нічога ня ведалі, і ўсё-ж маскалём не паддаліся. Цяпер-жа наш народ ужо *даволі сьвядомы,* ужо *сваю сілу ў сабе пачуў.* Дык, хоць і зьвязаны, хоць і бязпраўны, асілак наш тым балей не паддасца і ўлывам пануючае над намі Польшчы, як не паддаўся Расеі.

## Напад на Стоўпцы.

Нябывалы дагэтуль па сьмеласьці і чысьленасьці ўчасьнікаў напад „дывэрсыйнае банды“ на Стоўпцы здарыўся 4 жніўня каля 1 гадз. ночы.

Вялікі дывэрсыйны атрад у лічбе 100 асоб, з кулямётамі і ручнымі гранатамі, акружыў места і напаў на староства, каманду навятовае паліцыі, пастарунак мястовае паліцыі, вагзал чыгункі, скарбовую касу, пошту і вастрог. Атакі на староства, скарбовую касу і мястовую паліцыю былі адбіты. Пошта абрабавана. Павятовая паліцыя разгромлена. Так сама разгромлены вагзал, дзе зьнішчаны тэлеграфныя апараты. Разгромлены некаторыя кватэры і крамы. Забіты на месцы адзін урадовец з староства і 7 паліцыянтаў; ранены, паміж іншым, тэлеграфіст.

Напад трываў больш гадзіны. Уланаў, ехаўшых у места праз мост, нападаўшыя сустрэлі агнём кулямётаў. Яны былі прымушаны адступіць і акольнымі дарогамі пакіравaліся да места.

Калі нападаўшыя выйшлі з места, за імі пайшла пагоня, зложаная з вайсковых і паліцэйскіх часьцей. Банда падзялілася на чатыры атрады, і адзін з іх ужо перайшоў за бальшавіцкую граніцу. Другія адбіваюцца. Каля Коласава йдзе бітва. У часе пагоні адабраны ў партызанаў некалькі кулямётаў і ручных гранатаў, два вазы з зрабаванымі рэчамі і шэсьць каней.

Злоўлены партызан прызнаўся, што належаў да дывэрсыйнага атраду, зарганізаванага на бальшавіцкай тэрыторыі. У часе пераходу партызанаў цераз граніцу савецкія жаўнеры стралялі ў наганяўшых іх палякоў.

## Абдзіраньне народу.

„Gazeta Warszawska“, орган эндэкаў, якая выслугоўваецца капіталістам, у перадавіцы „O czas pracy“, пахваляючы ўвядзеньне на Горным Сьлёнску 10-гадзіннага рабочага дня, прагаварылася, што **польскія фабрыканты пры аблічаньні заробкаў работнікаў і цэн на прадукты іх працы кіруюцца „нездаровым прынцыпам“, паводле якога фабрыкант павінен мець „сто або дзьвесьце процэнтаў зыску“.**

Гэтак і пры 12-гадзінным дню працы польская прамысловасьць ніколі ня здолее канкураваць з нямецкай!

## Акурат, як у 17 веку.

Нядаўна ў-ва ўсей каталіцкай Польшчы з вялікай помнай сьвяткавалі 300-лецьце мучаніцкай сьмерці знамянітага езуіта Кунцэвіча, „працаваўшага“ ў першай чверці 17 веку на становішчы віцебскага япіскапа.

Гэтае „польска-беларускае“ сьвята нязвычайна характэрна для ўсяго духу паўстаўшай з мертвых пасьля 150 гадоў свайго „дзяржаўнага пахаваньня“ Польшчы, якая прабуе распачаць сваю гісторыю ад таго мамэнту (а можа і яшчэ раней), на якім перарвалі яе паўтары сотні гадоў назад варожыя лёсы...

Мы ўсе чыталі, як шчыра захоплівалася ўся „па-польску чуючая“ прэса сьветлым аблічам замучанага праваслаўнымі беларусамі барца за каталіцкі касьцёл, заплаціўшага жыцьцём за праўду шчырай веры і любві, якія ён нёс у „дзікі край няверных“...

Пэўна-ж сьветлым аблічам мучаніка Кунцэвіча захопліваўся не адзін ксёндз, адбіраючы праваслаўныя цэрквы пры актыўнай дапамозе паліцыі і войска, як гэта сцьвярдзіў у сваей прамове наш сэнатар Багдановіч...

Міністар асьветы і рэлігіяў сучаснай Польшчы, натуральна, можа толькі ўваскрашаць і далей праводзіць у жыцьцё на сваіх праваслаўных „Крэсах“ „сьветлыя традыцыі“ свайго вялікага вучыцеля...

Вельмі цікава ўваскрасіць больш аб'ектыўна запраўдны абраз япіскапа Кунцэвіча, не захопліваючыся ніякімі нацыянальна-„рэлігійнымі“ ідэалёгіямі, але пазываючыся толькі і выключна на гістарычную праўду і агульна-людзкія „прынцыпы маралі і права“, якія, ня гледзючы на пасьляваен-

# Палітычныя падзеі.

## Мабілізацыя ў Баўгарыі.

З Белграду наказуюць, што баўгарскі ўрад прызваў на чынную службу 3,000 запасных. Югаслаўскі пасол у Софіі выехаў у сваю сталіцу Белград—паведаміць свой урад.

Югаслаўскі міністар заграмічных спраў разаслаў тэлеграмы з пратэстам проці баўгарскае мабілізацыі да ўрадаў Англіі, Францыі і Італіі.

Як у нас ужо пісалася, нядаўна выявілася, што Югаславія і Грэцыя зрабілі змову проці Баўгарыі, пагражаючы супольным нападам на яе ў прыпадку новых нападаў на граніцы Югаславіі баўгарскіх партызанаў. Трэба думаць, што мабілізацыя ў Баўгарыі — гэта адказ на гэную ваенную ўмову.

## Заява пасла С.С.Р.Р. у Празе.

Новы радавы пасол у Чэхаславакіі, Аўсеенка, высьветліў прадстаўніком прэсы, як адносіцца С.С.Р.Р. да Малай Антанты і Лігі Народаў.

Малая Антанта фактычна ня істнуе, і Румынія можа лічыцца зусім ізаляванай (адзінокай). Гэтая ізалянасьць Румыніі вельмі карысна для агульнага міру, бо павінна будзе змусіць яе да паразуменьня з Расеяй у справе Бэсарабіі і прыняць варункі ССРР.

Што датычыць Лігі Народаў, дык да яе, пры сучасным яе складзе і характары, адносіны С.С.Р.Р. зусім ад'емныя: яна толькі прыкрывае панаваньне тэй ці іншай дзяржавы і ня можа вырашыць аніводнай міжнародавай праблемы.

## Устанаўленьне польска-радавае граніцы.

31 ліпня ў Маскве падпісаны прадстаўнікамі Польшчы і ССРР пратакол аб правядзеньні польска-радавае граніцы.

## Літоўска-латышскае зьбліжэньне.

У Рызе апошнімі днямі адбыўся вялікі кангрэс у справе літоўска-латышскага гаспадарчага і культурнага зьбліжэньня гэтых двух народаў. На кангрэсе былі прадстаўнікі грамадзянства і латвійскага ўраду.

Сярод рэзалюцыяў кангрэсу зварачае на сябе ўвагу рэзалюцыя ў справе Вільні. Зьмест яе, паводле тэлеграмы ПТА, гэткі:

„Зрабаваная дарогай грубага гвалту старая сталіца Вільня павінна быць вернена яе праўнаму ўласьніку Літве. Як з літоўскага боку, так і з боку Латвіі павінны быць учынены ўсе крокі, каб крывавая крыўда народу і дзяржаве літоўскай была як найхутчэй папраўлена“.

З прычыны гэтае рэзалюцыі польскія ўрадовыя кругі высказалі латвійскаму ўраду сваё абурэньне. Апошні, хаця знаходзіцца „ў самых прыязных“ адносінах з Польшай, не перашкодзіў гэтаму проціпольскаму выступленьню і тлумачыўся тым, што ў часе галасаваньня гэтае рэзалюцыі на кангрэсе якраз ня было нікога з прадстаўнікоў латвійскага ўраду.

## На лёнданскай канфэрэнцыі.

Ня гледзячы на ўсе спрэчкі і непаразуменьні, канфэрэнцыя падыходзе да нейкіх супольных пастановаў. У выніку гэтага Мак-Дональд паслаў запросіны Нямеччыне, каб прыслала сваіх прадстаўнікоў.

Хаця Францыя і яе былыя саюзьнікі дайшлі да нейкае фармальнае ўгоды, усёж-такі аканчальныя вынікі канфэрэнцыі будуць залежаць ад пазіцыі, якую займець Нямеччына.

## Нямецкія варункі ўваходу ў Лігу Народаў.

Мы колькі разоў пісалі, што для Нямеччыны — вельмі сумліўная выгада скарыстаць з вялікадушнай згоды саюзьнікаў „пусьціць“ яе ў Лігу Народаў пры істнуючых адносінах у „Вэрсальскай Эўропе“. І вось цяпер Мак-Дональд атрымаў ад немцаў зусім ясны і выразны адказ на сваю шляхотную прапазіцыю.

Генаральны Сэкрэтар Лігі, п. Друмонд, быў спэцыяльна дэлегаваны ў Бэрлін, гдзе яму сказалі коратка, але ясна: **„Нямеччыне Ліга — непатрэбна...** Але, каб дагадзіць Мак-Дональду, Нямеччына згаджаецца ўвайсьці ў Лігу на такіх варунках: Нямеччына павінна атрымаць сталае месца ў Радзе Лігі; перад тым павінны быць перагледжаны пункты трактатаў адносна так званага „польскага калідору“ (які каля Данцыга дзеліць Нямеччыну па часткі, адразаючы Ўсходнюю Прусію); Нямеччына павінна атрымаць ад Лігі... „мандат на свае быўшыя калёніі“.

Апошняе азначае часовае **фактычнае** валаданьне гэтымі калёніямі, пакуль ня будзе перагледжаны Вэрсальскі Трактат — у напрамку юрыдычнага звароту Нямеччыне яе калёніяў.

Дзіва, што Мак-Дональд лічыць гэтыя варункі „залішне-павялічанымі“, а перадусім апошні — бо-ж гэты „мандат“ на нямецкія калёніі быў дадзены якраз Англіі...

## Канец рэвалюцыі ў Бразыліі.

Галоўны цэнтр паўстаньня—места Сан-Паолё — пасьля крывавае барацьбы з урадавым войскам пакінута паўстанцамі. Паўстаньне трэба лічыць зьліквідаваным.

# Адказ клюбу „Вызволене“ на ліст п. Тугутта.

Нашыя чытачы ведаюць зьмест таго лісту, які выслаў б. старшыня „Вызваленя“ п. Тугутт да партыі, каторую ён пакінуў, пачуўшыся пакрыўджаным за свайго новага прыяцеля п. Стан. Грабскага.

Цяпер у часопісі „Wyzwolenie“ зьмешчаны ня менш цікавы адказ п. Тугутту новага старшыні п. Валерона.

П. Валерон піша, што яго радыкальная, сялянская партыя, якая абяцала народу асьвету, зямлю і ўладу, павінна дзеля гэтых мэтаў вясьці барацьбу з капіталістамі і абшарнікамі, але не “гадзіцца“ і братацца з імі, як хацеў п. Тугутт.

Аб тым, што дае палітыка паразуменьня з Хіенай, найляпей кажа прыклад „Пяста“. Ад кожнага „пакту“ з людоўцамі правіца толькі сьмялела, нахлела, зьвярэла і дайшла ўжо да таго, што пачала амаль не адкрыта рыхтавацца да фашыстаўскага перавароту (арганізацыі П.П.П.). А які лёс спаткаў-бы Вызвалене, калі-б яно пайшло шляхам Вітаса, добра паказывае прыклад таго-ж „Пяста“. Два разы ўжо партыя людоўцаў цярпела раскол, і ўрэшце тыя, што асталіся з Вітосам, зусім страцілі даверые масаў...

Далей кажа п. Валерон, што ўваход п. Тугутта ў склад ураду разам з павадыром правіцы Ст. Грабскім—азначаў-бы поўнае спыненьне, як у парляманце, таксама і ў краі, гэтай барацьбы з правіцай, як гэта і сталася паміж Пястам і Хіенай. І гэта—нават тады, калі-б сам Тугутт асабіста і выйшаў з клюбу „Вызвалене“, увайшоўшы да ўраду са згоды партыі, як ён вельмі спрытна дамагаўся...

П. Валерон раскрывае спрытную ігру правіцы, якая „аддавала“ п. Тугутту міністэрства загран. спраў, куды ўсё роўна ніводнага пана з правіцы ня можна было пусьціць, бо з ім ніхто з новых сацыялістычных урадаў у Эўропе папросту не размаўляў-бы. „П. Тугутт мусіў-бы за граніцай выпіць усё тое, што наварыла правіца“. А за няшкоднага для яе мін. Тугутта Хіена атрымала-бы ў свае рукі ўсю справу асьветы, усё кіраўніцтва духоўным жыцьцём у Польшчы.

З чаго-ж гэта так раптам „абмыліўся“ п. Тугутт? пытаецца п. Валерон. Здраду народнай справы, ці штось падобнае ён рашуча адкідае: Тугутт быў і астаўся „асабіста чэсным і чыстым“. Прычына гэткай „кепскасьці“ п. Тугутта... „яго вельмі цяжкая хвароба“.

Хвароба, што так туманіць мазгі,—відаць,—запраўды вельмі паважная, як сьцьвярджае п. Валерон... Толькі-ж дзеля чаго Клюб „Вызваленьне“ так прасіў і дабіваўся, каб п. Тугутт ізноў вярнуўся на становішча яго старшыні і адказнага лідэра партыі?!

Ці-ж гэтаму тая „паважная хвароба“ мазгоў не перашкаджае?!

# З газэт.

## „Жніво“ польскае палітыкі.

„Wyzwolenie Ludu“, орган „лявіцы“ партыі „Вызвалене“, гэтак піша аб выніках дасюлешняе польскае палітыкі:

> Вынікам яе зьяўляецца факт, што, з аднаго боку, нашы беларусы і украінцы ўтрацілі веру ў запраўдную помач і абарону, якой спадзяваліся ад польскае лявіцы, а з другога боку — дзікі і сьляпы нацыяналізм хіена-пяста збудзіў у украінскага і беларускага народу варожае да Польшчы ўчуцьцё.
>
> Не залагодзілі гэтага стану рэчаў толькі што праведзеныя ў Сойме ўставы аб беларускай і украінскай мове ў судох і адміністрацыі, а такжа ўстаў аб школах для гэтых двух народаў. Гэтыя ўставы, якія ў суполцы з п. Станіславам Грабскім пісаў былы старшыня „Вызваленя“, пасол Тугутт, аказаліся на гэты час ужо недастатачнымі, у некаторых справах будуць дражніць і падбураць жывучыя побач народы, а ўсфэры школы пярэчаць нават аснаўным прынцыпам пэдагогікі. У дадатку іх правялі па-за плячыма тых, хто найбольш у іх зацікаўлены,—значыць, ня пытаючыся аб пагляды беларусаў і ўкраінцаў.
>
> Дык і ня прынесьлі яны ўспакаеньня і паляпшэньня адносінаў гэтых народаў да Польшчы, і мы сур'ёзна баімося (каб-жа гэта ня збылося!), што давядуць да процілежных вынікаў. Для беларускіх паслоў-вызваленцаў гэтыя ўставы былі цяжкай спробай, на фоне якое ўжо да канца разьвіўся канфлікт паміж імі і большасьцяй клюбу, і ў рэзультаце два з іх, грамадзяне Бальлін і Шакун, пакінулі наш клюб.
>
> Вельмі сумуем, што гэтак нішчыцца ідэя братняга сужыцьця народаў Польскае Рэспублікі, што нічога добрага для Польшчы ня суліць....

Ой, так, так!

**Пішыце ў газэту аб усім, што ў вас дзеецца: аб гмінных парадках, аб адносінах начальства, аб школах і навуцы, дый аб усякіх выпадках у жыцьці вашае ваколіцы. Пішыце коратка, але поўна і ясна, паказываючы акуратна: што, дзе, калі і кім зроблена, прозьвішчы і адрасы пакрыўджаных і крыўдзіцеляў. Канешне падпісывайце і свае імя—толькі для ведама Рэдакцыі!**

# ХРОНІКА.

**Забарона пасольскага мітынгу ў Беластоку.** На мінулую нядзелю ў 12 гадзін дня ў Беластоку быў назначаны пасольскі справаздаўчы мітынг, на якім павінны былі прамаўляць беларускія паслы Тарашкевіч і Валошын. Аб гэтым было паслана паведамленьне старасьце, бо мітынг меўся адбыцца на мястовым пляцу. У адказ на гэтае паведамленьне стараста адказаў, што ён „дзеля публічнае бясьпечнасьці“ забараняе мітынг, хаця ня меў на гэта ніякага права. Паслы нашы, лічучы забарону старасты звычайным адміністрацыйным гвалтам, пастанавілі не падчыніцца незаконнай пастанове старасты і мітынг адбыць. На вызначанай плошчы ўжо сабралася маса народу, чакаючы паслоў. Калі апошнія зьявіліся і пачалі прамаўляць да народу, на людзей кінулася конная паліцыя, урэзаўшыся ў народ. Людзі расступіліся, але ўраз-жа ізноў згуртаваліся, каб слухаць паслоў. Тады выступілі атрады пешае паліцыі, якія, уразаючыся ў народ, пачалі яго дзяліць на групкі і іх разганяць. Паслы і вялікі натоўп людзей перайшлі па Рынак. Але спробы адбыць мітынг і тут не ўдаліся: паліцыя і тут разагнала сабраўшыхся.

У горадзе ўзьнялося страшэннае абурэньне. Цэлы дзень па вуліцах кружылі атрады пешае і коннае паліцыі, каб перашкодзіць новым спробам адбыць вызначаны зусім законна мітынг.

Асабліва абураны работнікі, якія наагул узбураны павялічэньнем рабочага дня з 8 да 10 гадзін. Разгон мітынгу толькі падліў масла ў агонь.

**Мітынг у Горадні.** У нядзелю, 3-га жніўня, адбыўся беларускі пасольскі мітынг у Горадні. Справаздачу дамо ў чародным нумары.

**Лекцыя Ст. Грабскага у Вільні.** У нядзелю, 3 жніўня, у Вільні адбылася публічная лекцыя вядомага эндэцкага дзеяча Ст. Грабскага, аўтара „языковых“ законаў, які раскрыў перад слухачамі істоту і мэты гэных законаў. З увагі на важнасьць для нас гэтае справы, дамо ў чародным нумары падробную справаздачу аб „шчырых прызнаньнях“ п. Грабскага.

**Новы ўстаў аб спадчынным падатку.** Паводле новага ўставу аб спадчынным падатку, прынятага Соймам і больш лагоднага для сялян, плаціць гэны падатак павінны:

1) насьледнікі ў простай лініі (муж, жонка, дзеці), калі на аднаго насьледніка асобна выпадае маемасьць, вартая ня менш за 10.000 злотых; калі-ж спадчына варта менш за 10.000 зл., дык падатку зусім ня трэба плаціць;

2) у-ва ўсіх другіх прыпадках радства спадчынны падатак трэба плаціць ужо ад 3.000 зл., лічучы на кожнага насьледніка асобна.

Падатку ад спадчыны не падлягаюць хатнія рэчы і жывы і мёртвы інвэнтар, калі вартасьць яго ня больш за 2.500 зл.

Новы закон мае сілу ня толькі ў тых прыпадках, калі сума падатку йшчэ ня вызначана, але і тады, калі ён вызначаны, ды да 1 ліпня не заплочаны.

# Весткі з вёскі.

**В. Кракотка**, Слонімскага пав.

## Рэформы на Беларусі, а можа адно ў нашым павеці?

Дарогі—гэта пасьля вайны бяльмо на вачу. Цяперака нельга па іх ні прайсьці, ні праехаць. Скажу пра сваю вёску. Вярстоў 20 да бліжэйшага мястэчка. Калісь тут быў роўны жывы гасьцінец. На ім да мястэчка Ражаны было чатыры масты. Дарога заўсёды была ў спраўнасьці, бо казна кожын год адпускала лес на рамонт. Нават немцы прызнавалі гэтую патрэбу і цераз возера збудавалі слаўны мост—замест згарэўшага ў вайну. Але арандатар млына разабраў мост і зрабіў млын. Былі жалабы, і з Староства прыяжджаў нейкі чыноўнік на сьледзтва, а можа не на сьледзтва, а лавіць рыбу? Мы думалі, што прымусяць млынара паставіць мост, ды ня тут тое было!

Гэтаю вясною ў нас узялі падатак на паправу дарог па пяць франкаў ад рабочае скаціны. Ну, думалі, хоць падатак заплацілі, але затое дарогі папрaвяць. Ды прайшла вясна, праходзіць і лета, а дарогі, дарогі... ўсё горшаюць!

Куды пойдзеш, каму што скажаш, у каго спытаешся, навошта пайшлі нашы франкі? А тож з аднае вёскі ўзялі з канёў за сто, а ў гміне чатырнаццаць вёсак, а колькі гмін у павеці?

Возьмем другую галіну нашага жыцьця.

Цяпер у нас праводзіцца „зямельная рэформа“. Мусіць ад яе ўсе зараз будзем у зямлі. Зямліцы ў нас нямнога, да і тая так расцягнулася вузенькімі загончыкамі, што і бараце цесна, можа і дадумаецца хто зрабіць барану на тры зубы тагды хоць пабаранаваць можна будзець.

Веручы ў польскі дэмакратызм і ў канстытуцыю, прыехалі мы на бацькаўшчыну, бо казалі што зямлю даюць, але даюць дулю пад нос! Ну пасудзеце, паночкі, што тут рабіць? Шасьціна зя-

